## Праўленьне ўпіралася.

*(Віцебск).*

Лёзунг—„Даешь меткого стрелка"—знайшоў адпаведны водгук сярод паляўнічых Віцебскай акругі.

Стралковай сэкцыяй у студзені месяцы быў складзен плян стралковае працы. Праводзілася сыстэматычна стральба ў кожную нядзелю на стэндзе. Праводзіліся спаборніцтвы ў дзень Чырвонай Арміі.

У сваім пляне сэкцыя прадугледжвае масавыя спаборніцтвы і ў гэтых мэтах зьвярнулася да акруговага праўленьня паляўнічых для асыгнаваньня сродкаў на ажыцьцяўленьне намечанае работы.

Плян, пастаўлены сэкцыяй на абгаварэньне акруговага праўленьня, першы раз не атрымаў належнага вырашэньня. Праўленьне адхіліла прапанову сэкцыі ў частцы выдачы прызоў, а ў адносіне-ж талерачак абмяжоўвалася выдачай дарэмна ўдзельнікам спаборніцтва па 10 талерачак.

Што датычыць самога старшыні праўленьня, дык ён дайшоў да сапраўднага абсурду і ўнёс прапанову аб водпуску кожнаму ўдзельніку стралковых спаборніцтваў па дзьве талерачкі, чым і можна будзе, па яго думцы, у дастатковай меры выявіць лепшага стралка.

Такія адносіны з боку акруговага праўленьня да разьвіцьця стралковае справы сярод паляўнічых нельга лічыць сур'ёзнымі і здавальняючымі запатрабаваньні, накіраваныя да разгортваньня гэтае справы.

На адбыўшымся агульным сходзе членаў стралковай сэкцыі 20 красавіка, пры ўдзеле праўленьня, гэтае пытаньне, дзякуючы актыўнасьці членаў сэкцыі вырашана канчаткова.

**К. О.**

### Цікавы выпадак.

Паляўнічы з г. Менску Янушкевіч А. А. расказаў мне цікавы выпадак. У мінулым годзе ён паляваў яшчэ з адным паляўнічым Шуляком В. каля вёскі Зарэчча, Заслаўскага раёну. Паднялося з камышоў 2 чыркі. Шуляк стрэліў на іх і адзін з чыркоў стаў раптам забірацца ў вышыню, а потым крута павярнуў ўніз і пачаў зьніжацца. Паляўнічы Шуляк дагадаўся, што чырок слаба паранен і ўвесь час сачыў за яго палётам.

Калі чырок пралятаў над зарасьнікам, адтуль выляцеў каршун, стралой кінуўся да чырка і сваімі моцнымі капцюрамі схапіў яго і апусьціўся да долу.

Паляўнічы Янушкевіч і Шуляк кінуліся ратаваць чырка. Калі яны падыйшлі да каршуна з чырком, дык той ужо ўсьпеў адарваць яму галаву.

Паляўнічыя забілі каршуна ды забралі безгаловага чырка.

**М.**

## Адабрана 46 стрэльбаў.

*(Бразінскі раён).*

Пры дапамозе раймiліцыі Брагінскім бюро калектыву паляўнічых з 1-га студзеня па 12 чэрвеня праведзена вялікая барацьба з браканьерствам.

За гэты час адабрана 46 шт. стрэльбаў.

Стрэльбы, пасьля другой ацэнкі, будуць, у першую чаргу, прадавацца сельназірацелям, якія праявілі ініцыятыву па барацьбе з браканьерамі ды драпежнікамі. Браканьеры аштрафаваны па сацыяльнаму падыходу да кожнага.

У Брагінскім раёне арганізаваны і працуюць 5 сельячэек паляўнічых, асабліва добра працуюць Спэрызская і Верх. Слабодзкая сельячэйкі, якія зусім зьнішчылі браканьерства.

Кепска, як паведамляюць, працуе ў гэтым напрамку Камарынскае бюро калектыву, якому трэба падцягнуцца.

**Е. Сідарэнка.**

## Сельячэйка працуе.

*(Высачанскі раён).*

У красавіку месяцы г/г. у Выдрэйскім сельсавеце арганізавана паляўнічая ячэйка. Сваю працу ячэйка паказала: некалькі разоў правяла вучэбную стральбу па талерачках і стральбу з дробнакаліберных вінтовак. Паляўнічыя, асабліва моладзь, прымалі ўдзел ахвотна.

На зборышчах абгаварваюцца пытаньні паляваньня аб дасягненьні найлепшага бою стрэльбы, дагляданьні за ёй, а таксама найцікавейшыя заметкі ў часопісі „Паляўнічы Беларусі" і г. д.

Для больш пасьпяховай работы ячэйкі ў культурным і практычным напрамках ёй неабходна мець: машынку для пушчаньня талерачак, дробнакаліберную вінтоўку і бібліотэчку па паляўнічых пытаньнях, бо ў раёне гэтага нічога даць ня могуць. **А—н.**



На стэндзе.

**Соцыялістычнае спаборніцтва павінна стаць сталай і плянавай працай ва ўсей сыстэме паляўнічай каапэрацыі. Кожная ячэйка, калектыў, таварыства—павінны ажыцьцёвіць лёзунг аб соцыялістычным спаборніцтве.**

## Дагляд за паляўнічымі ботамі.

Н. М.

Калі добрыя боты нечакана, раптам пачнуць прапушчаць ваду, дык вінават у гэтым не шавец, які шыў гэтыя боты, а сам паляўнічы, які няўмела і нядбала за імі даглядаў.

Добры дагляд за паляўнічым скураным абуткам заключаецца ў наступным: прыйшоўшы з паляваньня належыць зараз-жа абмыць боты ад бруду ды насадзіць на калодкі, а калі іх няма—набіць туга сухім аўсом. Калі боты высахнуць, добра памазаць каля затопленай печы. У гэтым выпадку мазь лепш убіраецца скурай, займаючы месца вады, ды і лепш расчыняецца ад цяплыні. Мазаць трэба і падошвы. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на швы. Для змазваньня вельмі зручна карыстацца зайчыным пазанком. Поршні трэба мазаць таксама, як і боты.

Пастаўленыя на калодкі боты або поршні трэба дні праз два высушыць ізнутры, а потым зноў паставіць на калодкі. Ніколі ня трэба сушыць боты, падвесіўшы іх над гарачай плітой ды і наогул блізка да агню, бо ад гэтага дужа жорсткай становіцца скура і псуецца.

Мазаць абутак можна як купленымі мазямі, так і мазямі свайго вырабу.

Лепшыя спосабы вырабу сваімі сродкамі мазі такія:

1. Бяруць 800 грам ворвані, столькі-ж нутранога сьвінога сала, 400 грам. чыстага бярозавага дзёгцю і робяць росчын на маленькім агні, уберагаючыся, каб росчын не загарэўся. Мазь вараць мінут 5—10. Потым яе выліваюць у гліняны паліраваны гаршчок і завязваюць пузыром або пергаментнай паперай. Гэту мазь, як і іншыя, належыць хаваць у студзёным месцы.

2. Штоп ільнянога (лепш варанага) масла разаграваюць на лёгкім агні, расчыняюць у ім 250 грам. нутранога сьвінога сала (можна і лою), 25 грам воску і 30 грам дрэўнай смалы (замест яе можна ўзяць каніфоль або бярозавы дзёгаць у той-жа колькасьці).

3. Дробна нарэзаную гуму (ад старых калёш) расчыняюць пры пастаянным памешваньні на агні, а потым дабаўляюць дзьве часткі ялавічага таплёнага сала або лою. Калі сала сплавіцца і ўся гума ў ім расчыніцца, прыбаўляюць ½ часткі добрага дзёгцю і ½ часткі ворвані (ці ільнянога масла). Калі мазь застыне, але будзе вельмі цьвёрдай, яе належыць зноў нагрэць і дадаць яшчэ ворвані. Калі мазь вельмі вадкая—належыць дадаць трохі воску. Перад мазаньнем гэту мазь належыць некалькі разаграваць, каб яна па гушчыні была схожа з мёдам. Адзін недахоп гэтай мазі, што яна мараецца.

Каб скура была мяккая, карысна, каб разы два-тры ў сэзон боты добра набраклі рыб'яй тлустасьцю. Трэба ведаць, што, калі ніякае мазі няма, можна боты зрабіць непрамакаемымі, паставіўшы іх мінут на трыццаць у мыльную ваду.

Пад боты належыць адзяваць пару або дзьве тоўстых шарсьцяных панчох або палатняныя (вымытыя) анучы. У больш студзёны час году апошнія павінны замяняцца мяккімі суконкамі.

Вельмі добры для паляваньня так званыя «непрамакаемыя панчохі»—гэта нібы боты бяз цьвёрдай падошвы і заднікаў, сшытыя з лёгкай, але шчытнай скуры або з насычанага гумай шоўку. Такія боты звычайна вельмі лёгкія. Надзяваюць іх як панчохі, а наверх—звычайна поршні. На жаль рабіць іх у нас (скураныя) умеюць толькі дзе-ні-дзе, а замежныя (шоўкавыя)—пападаюць да нас выпадкова.

# Адусюль аба ўсім.

*Экспорт жыўнасьці за мяжу.* З мэтай павялічэньня экспорту жывога зьвера і птушкі за граніцу, кіраўніцтва дзяржцыркамі прыступіла да арганізацыі шасьці сталых зьвералоўных промыслаў на далёкай поўначы, у Сямірэччы, у Сярэдняй Азіі, у Усурыйскім краі, у Сібіры і на Каўказе.

Апроч таго, адчыняецца спэцыяльная факторыя ў Крыму выключна для лоўлі птушак.

*Арцель зьвераловаў.* З восені нынешняга году на „Крышы сусьвету“—Паміры арганізавалася 1-ая арцель горных паляўнічых за жывымі зьверамі, галоўным чынам, за памірскімі горнымі баранамі—архарамі.

Памірскімі архарамі зацікавіліся ня толькі Ташкенскі і Маскоўскі зоопарк, але і зоопаркі Заходняй Эўропы.

*Гадавальнік собаляў.* Мінусінскі саюз паляўнічых адчыніў гадавальнік собаляў. 13 собаляў ужо куплены для гадавальніка.

*Злоўлена жывая рысь.* Для ленінградзкага зоолёгічнага саду злоўлена жывая рысь. Злавіць жывую рысь удаецца вельмі рэдка.

*Гасьцініца для сабак.* Большая частка гасьцініц ня прымаюць у сваё памяшканьне аматараў, якія хочуць астанавіцца з сабакам.

Аднак, у Нью-Ёрке існуе адна трыццаці паверхавая гасьцініца, якая дае памяшканьне уласьнікам сабак і асобна сабакам. Пры гасьцініцы стала працуе вэтврач, спэцыяльны повар і прыслуга. Для прагулак сабак пабудована спэцыяльная пляцоўка.

*Новыя меры аховы пералётных птушак.* Прускае міністэрства навук і прыгожага Мастацтва і Земляробства апублікавалі даціраваны ад 29/X-29 г. загад аб паляваньні на птушак на востраве Гельголянд, які вядом масавым зьнішчэньням іх.

Паказаны загад катэгарычна забараняе начную лоўлю ўсіх парод птушак, нават тых, якія не зьяўляюцца дзічай; таксама забараняецца ўначы падбіраць стомленых птушак, раненых або мёртвых. Пачатак запрэтнага тэрміну пачынаецца праз гадзіну пасьля заходу сонца і канчаецца ўсходам яго. Вінаватыя ў парушэньні гэтага загаду караюцца ў 150 марак (70 руб.) і турмой.

# Літаратура і жыццё



## Чернопегая в румянах

*Рассказ* **В. Ветова.**

Был крепкий бодрящий морозец. Красный шар восходящего солнца медленно выходил из-за бугра. Село Ивлево дымило разом изо всех своих труб. Дым поднимался тонкими столбами и уходил в голубую высь, предвещая тихий чудесный охотничий день.

— Эй, охотники! Собака охотницкая вам не потребуется?

Так окликнул нас с Семен Семенычем ивлевский крестьянин Михайло Защипкин, когда мы со своими гончими проходили мимо его избы.

— Спасибо, и своими псами довольны,—отвечал я.—А откуда у тебя собака?

— В лесу пристала и вот уж третий месяц как у меня живет. Зайцев знаменито гоняет. Обождите, я вам ее сейчас покажу.

С этими словами Михайло скрылся во дворе.

— Скажите, Семен Семеныч, к вам, как председателю союза охотников, не поступило ли заявления насчет пропажи гончей собаки?

— Никаких заявлений не было, но личности всех гончих собак в нашем уезде мне дорошо известны. Я сразу узнаю, чья собака к Михайле пристала.

Во дворе раздался отчаянный собачий вопль, и в ту же минуту перед нами предстал Михайло. Он вел на веревке большую пеструю собаку и энергично подпихивал ее сзади коленкой.

При виде этого пса мы с Семен Семенычем невольно расхохотались, а наши гончие—Рыдало, Докука и двое Докукиных детей, поджарых молодых выжлецов—разом метнулись на сворках, вз'ерошили шерсть и вызывающе подняли хвосты.

— Эй, Михайло! Ну, не совестно ли тебе такую дрянь показывать! Да твоей собаке жить осталось не более суток. На нее страшно смотреть.

Собака Михайлы действительно окраской походила на гончую англо-русской породы, но что за отталкивающий вид был у нее! Более изнуренного пса мне еще не приходилось видеть. Это был скелет, обтянутый кожей; на нем легко можно было бы сосчитать все ребра и позвонки. Собака подгибала зад, болезненно горбила спину и, казалось, шаталась от слабости. К тому же она прыгала на трех ногах, подогнув четвертую больную лапу.

— Пойдем, Владим Сергев,—сказал Семен Семеныч.—Нечего нам тут время терять. День короткий. Нынче много не нагоняемся. Прощай, Михайло! Убери подальше свою собачью холеру. Она и заряда дроби не стоит!

— Э, охотники!—крикнул Михайло нам вслед.—Обождите! Зря вы собаку хаите! Вы сначала испробуйте, как она гоняет, а потом уж ругайте. Я дело вам говорю: это знаменитая собака!

Семен Семеныч махнул рукой, и мы быстро зашагали по направлению к Кустроватому лесу. Этот молодой лес славился обилием зайцев, которых там было, по словам Семен Семеныча, целое «депо».

— И бывают же дураки!—рассуждал Семен Семеныч.—Эту, простите за выражение, собаку прежний ее хозяин, небось, нарочно из дома прогнал, чтобы зря не кормить, а Михайло нахально нам ее тычет и еще пробовать предлагает. Видно, совести у него не хватает.

Мы сошли с дороги и напрямки пошли к лесу. Собаки по шею проваливались в рыхлом снегу. У опушки было особенно глубоко. Мы спустили собак, и они тотчас же углубились в молодой лес, с трудом прокладывая себе дорогу. Такая охота требует от собак громадной выносливости и энергии.

Мы с Семен Семенычем уселись друг против друга на пенечках и закурили в ожидании, что какая-либо из собак подаст нам голос. Действительно, минут через пять в молодых дубочках тявкнула Докука. Это означало, что она нашла ночной заячий след. Докука не спеша пошла по следу в «добор», изредка подавая голос. Вскоре послышались редкие голоса прочих собак. Вся стая шла за Докукой в добор. Собаки еще не дошли до заячьей лежки, заяц еще не был взбужен; повидимому, он успел изрядно наследить в молодом лесу за долгую морозную ночь.

Вдруг значительно впереди того места, где добирали наши собаки, раздался азартный лай. Какая-то собака подняла с лежки зайца и погнала его. Но это не была наша собака. Голос ее был звонкий, густой и отчаянный. Чувствовалось, что собака гонит с необыкновенным воодушевлением. Некоторые нотки ее голоса звучали прямо-таки захватывающе. Постепенно повышаясь, лай переходил в исступленный торжествующий вопль.

— Музыка, а не гон!.. Но какой чорт тут еще кроме нас охотится? Экая ерунда получается!

Наши гончие подвалили к неизвестной собаке. Вся стая дружно гнала. Кустроватый лес зазвенел от гона. Голос неизвестной собаки выделялся из всей стаи своей силой и красотой. Заяц, повидимому, заворачивал на опушку. Спотыкаясь и обгоняя друг друга, мы поспешили туда и прибыли на опушку в тот самый момент, когда юркий ушастый русачишка выскочил на чистое поле и пулей понесся нам навстречу.

Пиф-паф!—коротко щелкнули в морозном воздухе наши ружья. Зайчишка высоко подпрыгнул и мертвый шлепнулся в снег. Лишь серенькие пушинки его шерсти словно повисли в неподвижном, застывшем воздухе. Мы подошли к русаку. Собачьи голоса приближались. Вскоре вблизи затрещали голые ветки, и на гонном заячьем следу показалась голова неизвестной гончей собаки. Что за дивную музыку

издавала эта голова! Собака рвалась изо всех сил. Далеко за нею поспевали наши знаменитые псы.

— Семен Семеныч, смотрите: да ведь это собака Михайлы!..

— Не может быть!

— Факт!

Сомнений не было. Захлебываясь от страсти, извиваясь всем телом, проваливаясь на каждом скачке в глубоком снегу, неслась тощая, как скелет, собака. Вся засыпанная снегом, она словно преобразилась. Глаза ее были на выкате. Она шла в каком-то экстазе.

Повидимому, она вырвалась из рук Михайлы и пошла за нами, не выдержав искушения погонять. Вид наших ружей и собак соблазняюще подействовал на нее.

Увидев убитого русака, собака поняла, что трагедия кончена. Она сразу притихла и остановилась в сгорбленной позе, поджав окровавленную больную лапу. Из кустов появились торжествующие Рыдало и Докука со чадами. Попрыгав вокруг убитого зайца и порадовавшись на своих хозяев, наши собаки принялись знакомиться с пестрой собакой. По очереди обнюхивали ее, приветливо виляли хвостом и, в конце концов, об'явили незнакомке, что ничего против нее не имеют. Лишь моя старая Докука, казалось, была не в духе, почувствовав в пестрой собаке соперницу.

Мы с Семен Семенычем смотрели на пеструю собаку и глазам своим не верили. Как могла собака, еле живая на вид, побитая, хромая и изнуренная до последней степени, гонять с таким огненным темпераментом в этих непролазных сугробах?

— И откуда только это в ней берется? Смотреть ведь не на что, чистая собачья смерть! Ну и сердце же у этой пестрой твари!

Тем временем «пестрая тварь» снова скрылась в кустах. Не прошло и трех минут, как она снова заголосила, увлекая за собой наших псов.

Что это был за незабываемый день! Мы гоняли до темноты одного зайца за другим без перерыва. Всем гоном руководила пестрая собака, и ее искусство затмило мастерство Докуки и Рыдалы. Наши гончие словно признали ее превосходство и следовали за ней.

Когда мы гнали последнего зайца, произошло нечто странное: наши собаки гоняли по всему лесу, а голос пестрой гончей вдруг стал раздаваться на одном и том же месте. Когда последний заяц был убит и к нам подошли наши усталые гончие, пестрая собака все еще голосила на том же самом месте, словно она была привязана к дереву. На звук наших рогов собака не явилась. Тогда мы сами пошли на ее голос.

То, что мы с Семен Семенычем увидели, окончательно умилило нас. Пестрая гончая лежала на заячьем следу. Она окончательно выбилась из сил и от слабости не могла встать. Ее побитые окровавленные ноги отказывались служить, но она мысленно все еще продолжала гнать зайца. Тощее тело конвульсивно вздрагивало, глаза блуждали, она отчаянно лаяла, но подняться уже не могла и, казалось, умирала на своем посту.

— Никак умирает?!.

— Нет... просто отощала. Бессовестный Михайло ее, небось, не кормил.

Семен Семеныч отрезал заячьи пазанки и бросил их несчастной собаке. Она с жадностью схатила и враз проглотила пазанки. Мы дали ей хлеба и заячьих потрохов. Глядя на амкающую голодную собаку, Семен Семеныч с нежностью сказал:

— Амкай, тварь, себе на здоровье! Ты соображающая, толковая тварь!

Собака облизывалась и требовала еще.

— Ах, ты амляшка ненасытная! Официальная амляшка!..

Собака завиляла хвостом.

— Ну, стало быть, Амляшка и есть.

Подкрепившись хлебом и требухой, собака вскочила на ноги и с гоном бросилась по заячьему следу, на котором лежала.

— Видали вы такую чертовку! Владим Сергев, это не собака, а огонь!

Уже темнело. Мы бросились ловить Амляшку и с трудом перехватили ее. Такой отчаянной гончей мы с Семен Семенычем еще не встречали. Мы сознались друг другу, что она лучше наших хваленых собак, а, между тем, охотники никогда не сознаются в подобных вещах. Было бы преступлением упустить такую работницу, и мы тут же решели купить у Михайлы пеструю Амляшку.

Сделка состоялась в тот же вечер. Собака была приобретена за три целковых. Никто из нас не хотел уступать собаки другому, а потому мы решили, что Амляшка будет принадлежать нам обоим. В то время я переехал жить рядом с Семен Семенычем. Наши квартиры разделялись общим двором, а потому иметь общую собаку оказывалось возможным и даже удобным...

— Что за уродина! Какая гадость! Вон ее отсюда!.. Да в своем ли вы уме?!.

Так встретили нас наши жены. Они мирно занимались чаепитием, когда мы вернулись с охоты и ввели в комнату хромую пеструю собаку. Много горького и нехорошего сказали нам наши жены по поводу покупки Амляшки. По их мнению, гораздо целесообразнее было бы истратить несколько рублей на дамские полуботы, чем на покупку полумертвой собаки. Жены категорически заявили, что не будут кормить Амляшку и что не потерпят ее присутствия в комнатах.

Амляшка поселилась во дворе. Она была так истерзана и изнурена, что мы не брали ее на охоту. Кстати, и сезон охоты скоро прошел. Мы хорошо кормили ее вареной кониной, и собака поправилась. Мы уважали ее, предвкушая охотничьи радости, какие она доставит нам на будущий сезон.

* * *

Наступила весна. Семен Семеныч, как председатель местного уездного отделения союза охотников, получил из нашего центра официальное уведомление о том, что через две недели состоится губернская выставка собак. Всем уездам предлагалось прислать на выставку свои экспонаты. Хотя наш уезд и мог похвастаться прекрасными рабочими псами, однако, особенно породистых и красивых у нас не было. Мы рассуждали с Семен Семенычем по этому поводу и соображали, чей пес в нашем уезде наиболее породист. Во время беседы я случайно подошел к окну. Перед мною на солнышке грелась оправившаяся Амляшка.

— Амляшка!—крикнул я ей в окно.

Собака лениво встала, потянулась и, зевнув, приветливо замахала хвостом. За два месяца она стала неузнаваемой. Раньше я никогда не смотрел на нее с точки зрения ее породистости. Видя ее изо дня в день, я слишком пригляделся к ней. Теперь я стал разбирать ее недостатки и внезапно обнаружил, что таковых у нее не имеется. Амляшка вдруг показалась

мне очень красивой. Бросалась в глаза прекрасная большая голова, огненный взгляд, могучие ребра, грудь, мышцы, идеально посаженный хвост, безупречные лапы и особая, чисто зверовая повадка. Собака была безупречна. Мало того, я внезапно понял, что передо мною редкий по красоте экземпляр собаки англо-русской породы.

— Семен Семеныч! подойдите сюда... Посмотрите: вот кого мы с вами представим на выставку!

— Да будет вам, Владим Сергев!.. А впрочем... Эк ее расперло! Знать, с хороших харчей... И не узнаешь. Фактически, из нее получилась официальнейшая гончая.

Мы вышли во двор и подвергли Амляшку подробнейшему осмотру. В тот же день Семен Семеныч написал в центр, что от нашего уезда будет представлена на губернскую выставку гончая выжловка англо-русской породы.

* * *

Волнующи собачьи выставки для собак. Еще более волнуют они собачьих хозяев. Если собак волнует только присутствие множества себе подобных, с которыми им почему-то хочется подраться, то собачьих хозяев волнуют вопросы самолюбия и официальная торжественность обстановки.

Еще во время ветеринарного осмотра собак, накануне открытия выставки, мы с Семен Семенычем начали нервничать. Каждая вновь появлявшаяся гончая волновала нас: а вдруг это и есть та самая, которая посрамит Амляшку?..

Губернская выставка была обставлена очень торжественно. К открытию собралось великое множество народа. Из Москвы были приглашены судьи-эксперты. Был отпечатан каталог выставки. Этот каталог жутко было читать. Там черным по белому было написано:

**№ 32.** Англо-русская выжловка Амляха (чернопегая в румянах).
Происхождение неизвестное.
Владельцы: С. Боченкин и В. Хвощ

Приятно было прочесть свои имена, напечатанные в красивой серенькой книжечке. Волновало странное официальное выражение: «чернопегая в румянах». Сразу было ясно, что дело очень серьезное и далеко не шуточное.

— «Чернопегая в румянах»!—говорил Семен Семеныч, задумчиво глядя на Амляшку.—Эн, как загнули!.. «Неизвестного происхождения»! Мы, стало быть, с вами за собаку отвечаем... Владим Сергев, а ну как нас засмеют за нашу «чернопегость»?

Дальнейшее чтение каталога взволновало нас еще больше. Всех гончих выставлялось до восьмидесяти штук. На все это количество предназначалось только два приза: один за лучшего выжлеца и один за лучшую выжловку.

Восемьдесят гончих!.. Каких тут только не было кличек! Из каталога мы узнали, что в эту компанию затесался какой-то выжлец Добыч, ранее получивший большую серебряную медаль, и знаменитая англо-русская выжловка Валторна, взявшая на всесоюзной выставке собак золотую медаль и приз. Всех медальеров выставлялось пять штук.

Мы отыскали Валторну. Это была гордая нарядная собака, сознававшая свою солидность. Оказалось, что она помещалась рядом с Амляхой. Обе собаки избегали даже встречаться вглядами—до того они возненавидели друг друга. Хозяин Валторны был пренесимпатичный гражданин с надутой физиономией и серьезными седеющими усами. Он с глубоким презрением смотрел на нас и на нашу собаку. Мы не сказали с ним ни слова. Его презрительная физиономия и серьезные усы ужасно раздражали нас. Казалось, не его собака, а он сам получил золотую медаль.

Множество любопытных останавливалось перед Валторной. Все восхищались ее статьями. Никто не смотрел на Амляшку. Она уютно свернулась калачиком, и в этой ее скромной позе трудно было разобрать ее качества. Лишь один дряхлый старичок с наружностью бывалого охотника подошел к Амляшке и долго на нее смотрел, причмокивая языком, словно кушал что-то очень вкусное.

— Ай, что за выжловочка!—приговаривал он.— Очень, очень интересная!..

Это был единственный посетитель, обративший внимание на Амляшку.

Началась экспертиза гончих. Их разделили по породам. Сперва на ринг вывели гончаров костромской породы, потом—костромских гончарок. За костромичами вслед вывели англо-русских и, наконец, настала очередь вести Амляшку. С ней шло еще семь штук. Екнули наши сердца, когда вызвали наш 32-й номер.

Вокруг ринга столпилась сотенная толпа зрителей. По приказанию московского эксперта владельцы со своими собаками начали ходить кругом ринга. Видя себя окруженной незнакомыми собаками, Амляшка ощетинила шерсть и чорт знает что стала выделывать своим белым хвостом. Она напоминала раз'яренную тигрицу, и Семен Семеныч еле удерживал ее.

Судья долго молчал, глядя на прогуливающихся собак пронзительными хищными глазами. Затем он ткнул пальцем по направлению к Амляшке и скомандовал:

— Стой!

Сейчас нас прогонят...»—мелькнуло у меня в голове.

Но нет. Нас и не думали выгонять. Судья по очереди стал вызывать собак на середину круга. Он подробно осматривал каждую часть тела и что-то записывал в свою книжечку с таким торжественным видом, будто совершал величайший государственный акт.

Последней вызвали Амляшку. Неужели она была хуже всех?.. Долго смотрел на нее московский судья бесстрастными острыми глазами и наконец произнес:

— Валторна, встаньте рядом с номером тридцать вторым.

Хозяин Валторны вывел свою собаку на середину и поставил ее рядом с Амляшкой. Собачий судья принялся кружить вокруг Валторны и Амляшки. Он смотрел на них спереди, сзади и сбоку. Наконец судья остановился, и лицо его приняло торжественное выражение. В толпе зрителей настала гробовая тишина. Я слышал, как быстро забилось мое сердце. Хозяин Валторны вдруг побледнел, как полотно. Что переживал он? Что переживали мы? Что переживали наши собаки?!.

Наконец судья произнес бесстрастным голосом:

— Номер тридцать второй лучше всех!

О, как вытянулась несимпатичная физиономия владельца Валторны! Густая краска залила его щеки. Мы с Семен Семенычем еле заметно переглянулись, но фасона своего не потеряли, несмотря на бурю внезапно охвативших нас чувств.

**(В. С.).**

*(Продолжение в след. номере).*

# НОВЫЕ КНИГИ.

**Охрана Природы. Орган Всероссийского Общества Охраны природы при Главнауке НКП. Т. I. 1928 год. (Выходит 6 раз в год).**

За последние годы вопросам охраны природы у нас в Союзе уделяется большое внимание, как со стороны государственных, так и общественных организаций и учреждений. Однако широкие массы трудящихся еще очень мало знают о необходимости внимательного и бережного отношения к нашим степям и лесам и к животным и растениям их населяющим. Идеи охраны природы не получили еще у нас широкого распространения, как на Западе или в Америке. С этой точки зрения необходимо всемерно приветствовать издание тагого журнала, как «Охрана природы», издаваемого Всероссийским Обществом охраны природы в Москве. Здесь мы остановимся на первых шести номерах журнала, вышедших в 1928 г. и составивших первый том. В короткой рецепции трудно исчерпать богатое содержание этого интересного и симпатичного издания и поэтому мы только сообщим названия тех статей, которые представляют наибольший интерес. Прежде всего отметим ряд статей, развивающих идею об охране природы: «Охрана природы и охота» С. А. Бутурлина (№ 1), «Как вести работу по охране природы» (№ 1), интересный исторический очерк Б. П. Дитмара «Охрана природы в России», (№ 5), «Вопросы охраны природы среди детей и взрослых» А. В. Жуковского (№ 3), «Задачи охраны природы в СССР» проф. Кожевникова (№ 1), «Трудовая школа в деле охраны природы» Пересветова (№ 4), «Обороны страны и охрана природы» Н. Н. Под'японского (№ 4), «Туризм и охрана природы» Ф. Ф. Шиллингера (№ 1). Ряд статей, посвящен. описанию наших заповедников, как, например, «Белорусский Гос. Заповедник» В. Владимирова (№ 4), «Национальные парки Джетысу» Б. Дублицкого (№ 4), «Алексеевская роща» Б. И. Иваненко (№ 5), «Государственный Ильменский Минерологический Заповедник» Д. И. Руденко (№ 2), «Кавказский Гос. Заповедник» Шапошникова (№№ 1, 2, 4), «Богородский Заповедник», «Живая книга» А. Титова (№ 3). К охотничьему промыслу имеют отношения статьи Б. М. Житкова «О пушном звероводстве» (№ 6), Каверзнева «О весенней охоте» (№ 2), Кудрявцева «Наши охотничьи заказники» (№ 4), Кулагина «К вопросу о современном запрете добычи соболя в пределах СССР» (№ 5). Часть статей посвящена вопросам охраны природы заграницей («Испанский заповедник» Аренса (№ 3), «Охрана природы в Польше» Боднарского (№ 4), его же о «Роли Франции в международной охране природы» (№ 6), «Национальные парки Канады «Дитмара (№ 4), «Охрана природы в Италии» Россинского (№ 3).

Довольно много места уделено известиям с мест. Жаль, что мало отводится места библиографии (только одна рецензия в № 1).

В заключение пожелаем самого широкого распространения журналу «Охрана природы». Выписывать его можно по адресу: Москва, Чистые Пруды, 6, Главнаука. Стоимость 2 руб. в год, для членов общества Охраны природы 1 р. 50 к., членом общества может быть всякий, сочувствующий целям о-ва.

В. Е-ов.

**Д-р В. Г. Ушаков и Ветврач В. В. Красюков. Берегись бешеных собак!—Изд. Ленинградгубкохотсоюза. Стр. 40. Ц. 25 к.**

За последние годы чрезвычайно увеличилось бешенство животных. Так, за один только 1926 г. в союзе было зарегистрировано 100.000 укушенных! Появление в свет разбираемой здесь книжки Ушакова и Красюкова весьма своевременно. В доступной даже и для малограмотного читателя форме в ней излагается все относящееся к бешенству животных: что такое бешенство, его причина, как происходит заражение, каковы признаки бешенства у собак, кошек, лошадей, коров, коз, овец, свиней и птиц, как распознаются бешеные животные, меры борьбы с бешенством, прививки, подача первой помощи укушенным бешеными животными и т. д. В книжке даются списки Пастеровских станций союза, где производятся прививки, а также правила о льготном тарифе на проезд укушенных. Книжку можно рекомендовать особенно охотникам и сельским хозяевам.

В. Е.

## Перапіска з чытачом.

**Пігулю Ц.** (Азарыцкі раён). Па пытаньню аб сабаках чытайце адказ т. Ральцэвічу ў „Перапісцы з чытачом“ „Паляўнічы Беларусі“ № 6.

Лавіць маладых зайчыкаў ды выкапваць з нор лісоў у забаронены час не дазваляецца законам і асоба, якая робіць гэта, лічыцца браканьерам.

**Жуку І. М.** Драпежныя зьверы і птушкі, якія залічаюцца ў балы для конкурсу, паказаны ў правілах правядзеньня конкурсу. (Білет на 1928-29 г.).

На пытаньне аб трусах чытайце адказ Якацкаму ў „Перапісцы з чытачом № 4 часопісі „Паляўнічы Беларусі“.

**Смольскаму П.** Калі кандыдаты, высунутыя прэзыдыумам сходу, былі абраны большасьцю галасоў прысутных членаў саюзу на сходзе, дык правідлова. Па пытаньню аб сабаках, чытайце адказ т. Марозаву ў „Перапісцы з чытачом“ часопісі „Паляўнічы Беларусі“ № 5.

**Сідарэнку І.** Бюро калектыву паляўнічых мае права непасрэдна падаваць у суд на браканьера.

**Навіцкаму**—(Койданаўскі раён). Згодна пастановы ЦВК і СНК СССР ад 12/II-26 г. (Зб. Зак. 26 г. арт. 169) і пастановы падрыхтоўчай камісіі СНК БССР ад 11/IX-28 г., зацьверджанай старшынёй СНК БССР, паляўнічы промысел у БССР с.-г. падаткам не абкладаецца.

**Шылаву Ф. Е.** Трымаць не на прывязі ганчака, як сабаку і іншай пароды, не дазваляецца.

## Паштовая скрынка.

**Чарняку Рыгору**—„Не хадзі ня ўпору“ (верш), **Самцэвічу П. А.**—„Воўчая даякуй“ (апавяданьне), **Блісьцінаву Міхасю**—„На Дняпроўскіх затоках“ (апавяданьне), **П. Смольскаму**—„У Палесьсі“ (верш), **Марозу**—„Паляваньне на лісоў“ (апавяданьне) і „Браканьеры Полаччыны“, **Харытановічу М. Б.**—„На паляваньні“—Вашы вершы ды апавяданьні слабыя. Пішэце лепш кароценькія дапісы з паказаньнем фактаў. Паляўнічаму—селяніну **Есіпу Іванову**—„Охотничье хозяйство в связи с коллективизацией сельского хозяйства“—ня пойдзе. **Стасенку**—„Аб балячках і перавыбарчай кампаніі паляўнічых ворганаў“, „Участнику“ „Вниманию С'езда Витохоткооперации“ і **А. Казлоўскаму**—„Прылёт птушак“—Вашы дописы спазьніліся. **Сьвірэйку Т.**—„Як дапамагаюць судовыя ворганы паляўнічым зьнішчаць бадзячых сабак“ факт, паказаны ў дописе, як Вы самі пішаце, разглядаўся ў вышэйшых судовых ворганах. **Кошка М.**—„Як лепш высьвятляць браканьера на паляваньні“—Ваша прапанова ня жыцьцёвая. **Браніцкаму Я. К.**—пакуль што Вашу прапанову аб радыё ажыцьцявіць немагчыма. **Лабаценку**—„Красные похороны в деревне“—ня пойдзе. **Тарасэвічу П.**—„Хто з іх лепшы злодзей“—хай суд разьбярэ, куды вам і належыць зьвярнуцца з паказаным у допісе фактам.

*Часопісь выходзіць пад рэдакцыяй:* **М. Ф. Шмідта, У. С. Данькова і Г. Я. Хлеўнікава.**

*Адказны рэдактар:* **Міх. Шмідт.**

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА НА 1929 ГОД

НА САМУЮ РАСПАЎСЮДЖАНУЮ
НА БЕЛАРУСІ
ШТОМЕСЯЧНУЮ ЧАСОПІСЬ

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА
ПРАМЫСЛОВА-КААПЭРАЦЫЙНАГА
САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ

## ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ шырока адбівае пытаньні аднаўленьня паляўнічай гаспадаркі, працу ахоткаапэрацыйных арганізацый Беларусі і жыцьцё на мясцох.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дапамагае правільнаму вядзеньню паляўнічай гаспадаркі, зьверагадоўлі, сабакагадоўлі і г. д.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ адбівае пытаньні барацьбы з драпежнікамі і браканьерамі.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць чытача з жыцьцём і норавамі жывёлы.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ знаёміць сваіх чытачоў з паляваньнем за граніцай.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ дае парады чытачом і зьмяшчае афіцыйныя пастановы і распараджэньні Ўраду, якія маюць сувязь з пытаньнем паляваньня.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ асьвятляе больш важныя палітычныя пытаньні краіны.

„ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“ садзейнічае разьвіцьцю кроўнай сабакагадоўлі і палепшаньню прамысловае сабакі.

У часопісе прымаюць удзел лепшыя навуковыя сілы на Беларусі, а таксама навуковыя сілы іншых рэспублік, практыкі паляўнічай каапэрацыі, пісьменьнікі-бэлетрысты і г. д.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

**На 1 год** . . . . . . **2 руб. — к.**
**На поўгода** . . . . . . **1 руб. 20 к.**
**На 3 месяцы** . . . . . . . . **70 к.**
**Асобны нумар каштуе** . . . . **30 к.**

Гадавыя падпісчыкі атрымаюць усе нумары з пачатку года і бясплатны дадатак—кніжку Аляксеева „Паляўнічы сабака, яго гадоўля і навучаньне“.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, усіх райбюро калектыву саюзу паляўнічых, акруговых праўленьнях і ў Ц. П. Белкахотсаюзу (г. Менск, Савецкая, 71).

# Выдавецтва „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

## МАЮЦЦА ДЛЯ ПРОДАЖУ:

Проф. **А. В. Федюшин.** Динамика и географическое распространение охотничьей фауны БССР. 1 р. 50 к.
**Квяткоўскі і В. Федасееў.** Як здымаць шкуркі з пушных зьвераў. Перапрацавалі і прыстасавалі да беларускіх умоў Данькоў і Шмідт . . . . . . . . — 25 к.
**Аляксееў.** Паляўнічы сабака, яго гадоўля і муштроўка . . . . . — 40 к.
**Проф. Елагин.** Доходное кролиководство . . . . . — 45 к.
Паляўнічы насьценны табель-каляндар на 1929 г. (штомесячны адрыўны) . . . . — 10 к.
Камплекты часопісі „Паляўнічы Беларусі“ за 1927 і 1928 г. . . . . . 3 р. —

**Пералічаная літаратура высылаецца па атрым. грошай ці наложаным плацяжом.**

**ПЕРАСЫЛКА ЗА КОШТ ВЫДАВЕЦТВА.**

*АДРАС: г. Менск, Савецкая, 71, В-ва „Паляўнічы Беларусі“.*

Заказ № 3125. У ліку 10.000. Галоўлітбел № 2033.